



ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг. Францыя — 40 фр., Бэльгія — 5 фр.. Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьлікам 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 38 (169) — Нядзеля 27 верасьня 1953 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 7


# «Новы савецкі нэп»

Апошнім часам у Савецкім Саюзе была праведзеная рэформа ў галіне сельскага гаспадарства ў кірунку прызнаньня некаторых, навет даволі значных, палёгкаў калгасьнікам. Хаця яна далёка не дароўнівае сваімі разьмерамі ленінскаму нэпу, але ад таго часу зьяўляецца ў сваіх маштабах яшчэ першай. Таму яе й называем тут «новым савецкім нэпам», тым больш, што прычыны й мэты гэтае рэформы тыя самыя, што й ленінскага нэпу. Паколькі аднак гэтая новая сельскагаспадарская рэформа ў Саветах фармальна вяжыцца з асобай Хрушчова, дык спачатку некалькі слоў аб гэтым, цяпер другім пасьля Маленкова, бальшавіцкім дыктатары.

### АВАНС ХРУШЧОВА

Маскоўскае радыё 12 верасьня паведаміла, што Мікіта Хрушчоў назначаны першым сакратаром ЦК КПСС. Такога становішча ў ЦК партыі дагэтуль ня было, бо Сталін займаў становішча «генэральнага сакратара» партыі, якое пасьля сьмерці дыктатара спачатку заняў Маленкаў, а за тыдзень, 14 сакавіка сёлета, Мікіта Хрушчоў. Спачатку ў савецкай герархіі пасьля сьмерці Сталіна Хрушчоў займаў пятае месца, пасьля ўпадку Бэрыі быў высунуўся на трэйцяе, а сяньня ўжо зьяўляецца другой асобай на крэмлёўскім алімпе.

Мікіта Хрушчоў, па нацыянальнасьці Расеец з Куршчыны, належыць да старой бальшавіцкай гвардыі і зьяўляецца суровым і безаглядным выканальнікам волі партыі. Ад 1930 да 1949 году займаў ён становішча генэральнага сакратара цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі Украіны і на ім так уславіўся, што атрымаў заслужаную сабе назву «ката Украіны». Апошні аванс Хрушчова сьветчыць аб далейшым умацаваньні пазыцыі Маленкова. Хрушчоў, як ведама, зьяўляецца шваграм Маленкова, а, як партыйны працаўнік, зьяўляецца толькі верным выканальнікам волі вышэй пастаўленых, ня маючы найменшай амбіцыі да адыгрываньня першае ролі.

### КРЫТЫКА ДАСЮЛЕШНЯГА СТАНУ СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ

7 верасьня Хрушчоў зрабіў на пленуме ЦК КПСС даклад аб дасюлешнім стане сельскае гаспадаркі Савецкага Саюзу і аб плянах ягонага павышэньня. Войстра крытыкуючы «адсталасьць сельскагаспадарскай галіны», Хрушчоў заявіў, што дасюль СССР ня меў магчымасьці зьвярнуць аднолькавай увагі на цяжкую прамысловасьць, як і на селскую гаспадарку ды лёгкую прамысловасьць. У выніку гэтага дзьве апошнія значна адсталі, а асабліва ў катастрафальным стане апынулася жывёлагадоўля. Ён сьцьвердзіў, што пагалоўе быдла ў Савецкім Саюзе сяньня на 3.500.000 штук ніжэйшае ад перадваеннага, а на 8.900.000 штук у параўнаньні з 1928 годам (канец нэпу). Толькі ў бягучым годзе яно зьменшылася больш чымся на 2 мільёны штук. Таксама малочная выдайнасьць кароў у вапошніх гадох моцна пачала падаць. Машынатрактарныя станцыі занядбоўваюць свае машыны і ня маюць дастаткова кваліфікаванага пэрсаналу. Бальшыня інжынераў і землябоскіх тэхнікаў, гэтаксама як і вэтэрынараў і іншых спэцыялістых, пераважна займаюцца канцылярскай работай, а ня працай на полі. На 94.000 старшыняў калгасаў толькі 2.400 маюць вышэйшую асьвету, а 14.000 — сярэднюю прафэсіянальную асьвету; астальныя-ж ня маюць наагул ніякай асьветы ў сваей прафэсіі.

### НОВАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРСКАЯ РЭФОРМА

Каб пакончыць з такім палажэньнем і павысіць стан сельскае гаспадаркі, Хрушчоў запрапанаваў далёка йдучыя рэформы, якія 13 верасьня былі аднагалосна зацьверджаныя цэнтральным камітэтам партыі. Навязваючы да прызнанай калгасьнікам перад некалькімі тыднямі зьніжкі падатку ад прысядзібных вучасткаў, Хрушчоў прызнаў ім цяпер значныя палёгкі ў галіне жывёлагадоўлі і дазваляе ім гадаваць большую колькасьць быдла на сваю собскасьць. Адначасна анулёўваюцца залегласьці з абавязкавых паставак ад жывёлагадоўлі. Калгасы із собскіх даходаў ад прадажы прадуктаў ад жывёлагадоўлі будуць цяпер адразу выплачваць калгасьнікам 25-ці працэнтныя залічкі (дагэтуль калгасьнік мусіў чакаць да падліку гадавога абароту). Таксама новае распараджэньне прадбачыць вышэйшыя цэны на сельскагаспадарскія прадукты, перадусім ад жывёлагадоўлі. Тыя-ж калгасы, што выкажуцца лепшай выдайнасьцю, будуць мець значныя зьніжкі падаткаў.

Новая праграма далей прадбачыць павялічэньне прамысловых інвэстыцыяў у галіне сельскае гаспадаркі, перадусім прадукцыі сельскагаспадарскіх машынаў і штучных угнаеньняў. Паводля новага пляну ў наступным годзе жывёлагадоўля мае дасягнуць стан: 65.900.000 штук быдла, 34.500.000 нерагатай жывёлы і 14.400.000 авечак і козаў.

### ЗАПРАЎДНЫЯ ПРЫЧЫНЫ РЭФОРМЫ

Новая праграма ў уступнай частцы гаворыць, што гэтыя мерапрыемствы цяпер сталіся магчымыя дзякуючы бліскучым дасягненьням індустрыялізацыі краіны на працягу папярэдніх гадоў. Пры гэтым моцна акцэнтуецца, што новая сельскагаспадарская рэформа мае на мэце падняць жыцьцёвы стандарт савецкіх працоўных масаў.

Трэба аднак разглядаць гэты новы крок Масквы не як жаданьне палягчыць нявымоўна цяжкое палажэньне савецкага селяніна, бо з патрэбамі насельніцтва Саветы яшчэ ніколі ня лічыліся і ня лічацца. Да гэтых уступак на карысьць калгасных масаў іх прымусіла няўхільная канечнасьць — поўная руіна сельскае гаспадаркі. Аб гэтым ш ра-ка цяпер піша савецкая прэса, аб гэтым біў алярм і Хрушчоў у сваей прамове 7 верасьня. Абрабаваны із усяго собскага калгасьнік і запрэжаны ў крывавае ярмо нявольніцкае працы ня быў зацікаўлены ў разьвіцьці й праспэраваньні сельскае гаспадаркі. Сярод калгасных масаў вытваралася глыбокая апатыя да працы і поўная абыякавасьць да ейных вынікаў. Дзякуючы гэтаму, сельская гаспадарка ня толькі не разьвівалася наперад, але з кажным годам упадала, аж дакацілася да поўнае руіны. Для савецкіх верхаводаў не аставалася тады іншага выхаду, як пайсьці на некаторыя ўступкі калгасьніку, абнадзеіць яго, што цяпер будзе лепей, і гэтым самым заахвоціць да прадуктыўнай працы. Такія мэты ставіў перад сабой Ленін, калі пасьля гадоў ваеннага камунізму быў змушаны абвесьціць нэп, гэтыя-ж мэты ставяць перад сабой і сяньняшнія крэмлёўскія верхаводы.

# Антыімпэрыялістычная расейская партыя

У Нью Ёрку паўстала новая расейская палітычная партыя — Нацыянальная Арганізацыя Рускіх Дэмакратаў (НОРД), якая 15 ліпеня выдала сваю Дэклярацыю. Галоўным ініцыятарам і кіраўніком НОРД-у зьяўляецца ўжо ведамы нашым чытачом праф. А. Алексінскі, сябра расейскай сацыял-дэмакратычнай партыі й былы сябра Дзяржаўнай Думы ад Ленінграду й Кранштату. Ніжэй падаём тыя пункты Дэклярацыі НОРД-у, якія закранаюць нацыянальнае пытаньне народаў Савецкага Саюзу або так ці інакш іх датычаць:

«Як прадстаўнікі найбольшага і, у параўнаньні зь іншымі падсавецкімі народамі, нацыянальна-ўпрывілеяванага народу (у былай расейскай імпэрыі і цяперашняму СССР) мы павінны ўзяць на сябе і найбольшую адказнасьць за паўсталую сытуацыю, а таму мы павінны выявіць насамперш ініцыятыву ў справе стварэньня дзейных рэальных перадумоваў для адзінага фронту падсавецкіх народаў. Адзіны шлях да гэтага — стаць нам, Рускім, на пазыцыю **запраўднай дэмакрацыі,** адмовіцца ад імпэрыялізму й пачаць **быць толькі Рускімі ў нашых дачыненьнях зь іншымі падсавецкімі народамі,** якіх мы павінны разглядаць нічым ня горшымі і ня лепшымі за нас.»

Далей Дэклярацыя ў наступных словах прэцызуе сваю палітычную плятформу:

**1. Прызнаньне ўсіх народаў былай расейскай імпэрыі й цяперашняга СССР за аднолькава роўных і раўнапраўных партнэраў і поўная адмова ад якіх-небудзь прэтэнсіяў на ўпрывілеяванае становішча рускага народу, як аднаго з гэных народаў, нічым ня лепшага і ня горшага за іншыя.**

**2. Стварэньне адзінага вызвольнага фронту падсавецкіх народаў і іхных палітычных эміграцыяў на аснове роўнага прадстаўніцтва нацыянальнасьцяў цяперашняга СССР, сярод якіх Руския таксама павінны быць рэпрэзэнтаваныя толькі як адна з нацыянальнасьцяў, безь якіх-небудзь асаблівых выключэньняў для яе.**

**3. Абвешчаньне за адзіную супольную мэту вызвольнага змаганьня падсавецкіх народаў на гэтым этапе — толькі зьнішчэньне камунізму й завядзеньне дэмакрацыі на тэрыторыі гэтых народаў з наданьнем кажнаму народу поўнай свабоды самому вырашаць нацыянальную долю ў рамах сваіх нацыянальных, кампактна-этнаграфічных тэрыторыяў.**

**4. Абмежаваньне рускіх нацыянальных інтарэсаў рамкамі сваей рускай нацыянальнай кампактна-этнаграфічнай тэрыторыі,** што ў васнаўным адказвае цяперашняй РСФСР без аўтаномных нацыянальных рэспублік і казацкіх земляў з наданьнем усім нацыянальнасьцям аўтаномных краёў і акругаў, а сярод іх і сілай зьліквідаваных і выселеных бальшавікамі, беззасьцярожнага права вызначыць сваю нацыянальную долю шляхам вольнага іхнага волявыяўленьня.» (Падкрэсьленьні ўсюды — Аўтараў Дэклярацыі).

Як бачым з вышэйшых цытатаў, гэтая новая партыя называе сябе не «расей-

(Заканьчэньне на 2-ой балоне)

# Палітычныя Навіны

(16—22 верасьня 1953)

**Камуністычны Кітай паза ЗН.** 15 верасьня распачалася ў Нью Ёрку 8-ая пленарная сэсія Задзіночаных Нацыяў, на старшыню якой была выбраная сястра прэм'ера Індыі Лякшмі Пандыт. Адразу пасьля адкрыцьця сэсіі савецкі дэлегат Вышынскі запрапанаваў прыняць у склад ЗН камуністычны Кітай. Савецкая прапанова была 44 галасамі супраць 10 і пры 2 паўстрымаўшыхся адкінутая, а прынятая амэрыканская прапанова, што пытаньне прыняцьця чырвонага Кітаю ў ЗН ў гэтым годзе ня будзе разгляданае.

**Прамова міністра Дальлеса.** Амэрыканскі міністар замежных справаў Дальлес сказаў новую праграмовую прамову на адкрыцьці 8-ай пленарнай сэсіі Задзіночаных Нацыяў, якая была ў васнаўным утрыманая ў мірным тоне, бо міністар быў змушаны лічыцца з такімі-ж настроямі іншых дэлегатаў ЗН. У сваей прамове ён фактычна толькі паўтарыў дасюлешнія мірныя ўмовы ЗША: мірныя дагаворы зь Нямеччынай і Аўстрыяй, пазытыўнае ўрэгуляваньне пытаньня Карэі й Індакітаю, свабода для ўсходняэўрапэйскіх краінаў, апанаваных Саветамі, спыненьне дэструкцыйнай савецкай дзейнасьці ў вольных дэмаркратычных краінах.

**Амэрыка паўторна запрашае чырвоны Кітай.** ЗША 18 верасьня ў спэцыяльнай ноце зьвярнуліся паўторна да камуністычнага Кітаю высказацца ў справе месца й тэрміну палітычнай канфэрэнцыі ў справе Карэі, прапануючы паўторна тэрмін канфэрэнцыі 15 кастрычніка, а на месца канфэрэнцыі Сан Францыско, Жэнэву або Гонолюлю. Як ведама, Кітай гэтую прапазыцыю ўжо раз адкінуў, дамагаючыся, побач іншых перадумоваў, удзелу ў гэтай канфэрэнцыі, апрача ваюючых дзяржаваў, таксама Савецкага Саюзу, Індыі, Інданэзіі, Пакістану й Бурмы.

**Савецкі праект раззбраеньняў.** Савецкі дэлегат у Задзіночаных Нацыях Вышынскі 20 верасьня паўтарыў першы раз ад сьмерці Сталіна савецкі праект раззбраеньняў: безадкладна забараніць атамную бомбу, скараціць збройныя сілы на адну трэйцюю Задзіночаных Штатаў, Вялікабрытаніі, Францыі, Савецкага Саюзу й Кітаю, зьліквідаваць ваенныя апорныя базы заходніх дзяржаваў на чужых тэрыторыях і спыніць прапаганду, якая стварае ваенную псыхозу.

**Завастрэньне курсу супраць Нямеччыны.** Ад 17 да 19 верасьня адбывалася пленарная канфэрэнцыя цэнтральнага камітэту ўсходнянямецкай камуністычнай партыі СЕД у ўсходнім Бэрліне, якая поўнасьцю заакцэптавала палітычныя тэзы заступніка ўсходнянямецкага прэм'ера Ульбрыха: замест мірнай палітыкі ў дачыненьні да Заходняй Нямеччыны, якая служыла дагэтуль прапагандовым мэтам у сувязі з выбарамі ў Заходняй Нямеччыне, абвяшчаецца цяпер праграма «вызваленьня» Заходняй Нямеччыны і ейнай саветызацыі, якая будзе праводжаная камуністычнай партыяй вонках парляманту. У савецкай зоне Нямеччыны будзе прадаўжацца надалей «новы курс» выключна ў гаспадарскай галіне і то некаторыя гаспадарскія палёгкі, заведзеныя ў сувязі з выпадкамі 17 чэрвеня, будуць цяпер адкліканыя.

**Паказовы працэс у Усходняй Нямеччыне.** 20 верасьня распачаўся ў усходнім Бэрліне паказовы працэс супраць васьмёх кіруючых функцыянэраў вугальнай прамысловасьці. Яны абвінавачваюцца, што сабатавалі вуглякопныя працы ў ваколіцы гораду Цьвікаў на даручэньне «заходнянямецкіх і амэрыканскіх імпэрыялістых», вялі гаспадарскі шпіянаж для «амэрыканскай агентурнай цэнтралі» і падбухторвалі супраць нямецкай дэмакратычнай рэспублікі, Савецкага Саюзу й граніцы на Одры й Нісе.

**Мерапрыемствы супраць антысавецкага руху.** Заступнік прэм'ера Усходняй Нямеччыны Вальтэр Ульбрых прадпрыняў розныя меры, каб перашкодзіць эвэнтуальным новым антысавецкім дэманстрацыям у Ўсходняй Нямеччыне і антыдзяржаўнай дзейнасьці. Дзеля гэтага дзяржаўная служба бясьпечнасьці мае яшчэ больш разбудаваць сваю сетку, узмоцніць свой пэрсанал і цесна супрацоўнічаць з «баёвымі групамі работнікаў прадпрыемстваў».

**Сыгман Ры пагражае камуністым.** Паўдзённакарэйскі прэзыдэнт Сынгман Ры загразіў, што ён выпусьціць на волю 3.700 паўночнакарэйскіх ваеннапалонных, якія адмаўляюцца ад рэпатрыяцыі і згодна дагавору аб перамір'і маюць быць перададзеныя пад апеку нэўтральнай камісіі, калі камуністыя ня спыняць шантажаваньня такіх-жа ваеннапалонных, якія ўжо знаходзяцца пад апекай гэтай камісіі. Устаноўлена, што камуністыя, якія згодна дагавору аб перамір'і могуць толькі «выясьняць аб рэпатрыяцыі» гэтым ваеннапалонным, узапраўднасьці робяць націск дзеля іхнае рэпатрыяцыі, запісваючы прозьвішчы гэтых ваеннапалонных, прозьвішчы й адрасы іхных сем'яў і сваякоў у Паўночнай Карэі.

**Камуністыя затрымліваюць ваеннапалонных.** Галоўнакамандаваньне збройнымі сіламі ЗН у Карэі сьцьвердзіла, што камуністыя яшчэ ня перадалі ім 3.403 альянцкіх ваеннапалонных і дамагаюцца іхнага звальненьня. У вадказ на гэта камуністыя заявілі, што ўспомненыя жаўнеры ў бальшыні сваей ніколі ня былі ўзятыя ў палон, а іншыя ўцяклі падчас канваяваньня іх у лягеры ваеннапалонных, і зажадалі, каб альянты вылічыліся з 98.742 Кітайцаў і Паўночных Карэйцаў, якія быццам яшчэ знаходзяцца ў альянцкім палоне.

**Чыстка ў чырвоным Кітаі.** У ўрадзе камуністычнага Кітаю была ў мінулым тыдні праведзеная вялікая чыстка, прычынай якой праўдападобна было нявыкананьне нормаў у першым годзе пяцігадовага пляну. У выніку чысткі былі зьвольненыя із сваіх становішчаў генэральны сакратар цэнтральнай Народнай Урадавай Рады, міністар фінансаў і заступнікі міністраў фінансаў, пошты, выжыўленьня, лёгкай прамысловасьці, лясоў, працы, культуры й дзяржаўнага плянаваньня.

**Трэйці МІГ-15 у руках альянтаў.** 20 верасьня 25-летні паўночнакарэйскі ахвіцэр прызямліўся на лётнішчы каля Сэулю ў Паўдзённай Карэі на савецкім дызэльным зьнішчальніку МІГ-15, які непашкоджаным папаўся ў рукі альянтаў у Карэі, а наагул трэйці пасьля пералётаў на Захад польскіх лётнікаў Ярэцкага і Язьвінскага на МІГ-15. ЗША ў лютым сёлета абяцалі 100.000 даляраў узнагароды таму лётніку ў Паўночнай Карэі, які пераляціць да альянтаў на непашкоджаным МІГ-15.

**Справа скасаваньня міжзанальных пашпартоў.** Тры заходнія Высокія Камісары ў Нямеччыне 18 верасьня паўторна зьвярнуліся да савецкага пасла ў Усходняй Нямеччыне Сямёнава з прапановай скасаваць з днём 30 верасьня міжзанальныя пашпарты для руху насельніцтва між Заходняй і Ўсходняй Нямеччынай. У сувязі з адказам у гэтай справе Сямёнава 1 верасьня, што справу міжзанальных пашпартоў павінны вырашыць урады Усходняй і Заходняй Нямеччыны, заходнія Высокія Камісары асьветчылі, што паколькі міжзанальныя пашпарты былі ўведзеныя дагаворам чатырох акупацыйных дзяржаваў, дык толькі імі могуць быць і адкліканыя.

**Новыя савецкія выпрабаваньні атамнае бомбы.** Савецкі ўрад паведаміў, што ён у мінулым тыдні пасьпяхова выпрабаваў некалькі новых тыпаў атамнае бомбы. Гэтыя выпрабаваньні быццам пацьвердзілі прыпушчэньні навукоўцаў, што Саветы могуць прыступіць да масавай прадукцыі атамнага аружжа. Гэтага вымагае бясьпечнасьць Савецкага Саюзу, бо адказныя амэрыканскія колы аж да апошняга часу адкідаюць савецкія прапановы забароны атамнага аружжа.

**Будзе падпісаны амэрыканска-гішпанскі дагавор.** Як паведамляюць з Мадрыду, у пачатку кастрычніка будзе падпісаны між Вашынгтонам і Мадрыдам дагавор у справе амэрыканскіх ваенных базаў у Гішпаніі, як і ў справе гаспадарскай і мілітарнай амэрыканскай помачы для Гішпаніі.

**Партызаншчына ў Паўдзённай Карэі.** Правадыр камуністычных партызанаў у Паўдзённай Карэі Лі-Гуёнг-Санг быў забіты ў бойцы з паўдзённакарэйскай паліцыяй у горах Паўдзённай Карэі. Разам зь ім было забітых пяць іншых камуністых. Забіты Лі-Гуёнг-Санг быў сакратаром былага паўночнакарэйскага міністра замежных справаў.

**Новы рэкорд шыбкасьці лёту.** Брытанскі лётнік Нэвіль Д'юк дасягнуў на адным дызэльным зьнішчальніку тыпу «Гаўкэр Гунтэр» сярэднюю шыбкасьць 1141,4 кілямэтраў на гадзіну і гэтым устанавіў новы рэкорд шыбкасьці лёту. Дасюлешні рэкорд выносіў 1050,6 клм. у гадзіну, які быў дасягнуты Амэрыкай у травені сёлета.

**Сэнсацыйная справа спадарыні Мэклін.** Пасьля таго, калі перад двума гадамі таямніча зьніклі з Ангельшчыны два ангельскія дыпляматы — Мэклін і Бурджэс, якія праўдападобна ўцяклі ў Саветы, 16 верасьня зьнікла з Жэнэвы пры такіх-жа таямнічых абставінах жонка Мэкліна. 20 верасьня ангельскае міністэрства замежных справаў паведаміла, што жонка Мэкліна ўцякла за зялезную заслону цераз Аўстрыю.

